**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№7(671)**
**14 лютага 2013 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае



## Запрашаем на картынг у Мосар!

17 лютага 2013 г. нядзеля, а 9-й

Мосар, сакавік 2012.

Запрашаем у Мосар на **рэспубліканскія** спаборніцтвы па картынгу, якія адбудуцца ў нядзелю 17 лютага. Пачатак – а 9-й гадзіне. А 12-й гадзіне – аматарскія заезды на матацыклах. Плануюцца заезды на квадрацыклах, кросавых і дарожных матацыклах, багі.

Як даехаць да месца спаборніцтваў? Пры ўездзе ў Мосар, перад мастом, павярніце направа, потым, амаль адразу, – улева.

Кантактны тэлефон: **714-04-89** (Анатоль).

Сіноптыкі абяцаюць у гэты дзень невялікі мароз, захапіце з сабой тэрмасы з кавай альбо гарбатай ды бутэрброды.

Арганізатары спаборніцтваў абяцаюць цудоўнае відовішча, якое штогод будзе развівацца.

**Сардэчна запрашаем!**

## П'янству – бой!

■ **А.І. Гігола,**
*начальнік аддзела аховы правапарадку і прафілактыкі Глыбоцкага РАУС.*



**За 2012 год:**

Па вобласці ў адносінах грамадзян складзена 947 адміністрацыйных пратаколаў па арт. 12.43 КоАП Рэспублікі Беларусь (Выраб ці набыццё моцных алкагольных напояў(самагонкі), паўфабрыкатаў для вырабу (брагі), захоўванне апаратаў для іх вырабу) і за парушэнне Дэкрэту №11 Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 09.09.2005 года «Пра ўдасканаленне дзяржаўнага рэгулявання вытворчасці, звароту і рэкламы піва, алкагольнай нехарчовай спіртазмяшчальнай прадукцыі і нехарчовага этылавага спірту», канфіскавана 288.661 літр фальсіфікаваных спіртных напояў і самагоннай брагі, знішчана 3 міні-заводы, канфіскавана –118 самагонных апаратаў.

**Па Глыбоцкім раёне:** у адносінах грамадзян складзена 38 адміністрацыйных пратаколаў, канфіскавана 6250 літраў фальсіфікаваных спіртных напояў і самагоннай брагі і 13 самагонных апаратаў. 13 чалавек загінула ад атручвання этылавым алкаголем, у 2011 годзе –18.

## Глыбоцкі раён

# Выдатны “Густ” у глыбачан

■ Станіслаў Раманчук

**Ужо даўно каля трохсот найменняў прадукцыі ордэна “Знак Пашаны” ААТ “Глыбоцкі мясакамбінат” карыстаюцца асаблівай папулярнасцю ў спажыўцоў як на ўнутраным, так і на знешніх рынках.**

І невыпадкова офіс гэтага прадпрыемства ўпрыгожваюць розныя дыпломы і сертыфікаты за перамогі ў разнастайных конкурсах “Лепшыя тавары Рэспублікі Беларусь”, Петэрфуд”, Наша марка”, “Алімпійская якасць” і іншых. Па выніках мінулага года глыбоцкія мясаперапрацоўшчыкі зноў сталі пераможцамі і рэйтынгавага нацыянальнага конкурсу-дэгустацыі “ГУСТ-2012”. На гэтым своеасаблівым аглядзе прафесійнага майстэрства ў Беларусі глыбачанам дасталіся яшчэ 6 дыпломаў за мясныя і каўбасныя вырабы і паўфабрыкаты з іх. У выніку камбінат атрымаў галоўны прыз конкурсу за высокую якасць прадукцыі, укараненне новых тэхналогій і за свой вельмі шырокі асартымент прадуктаў харчавання. Цяпер на мясапрадуктах, адзначаных рэспубліканскім журы, з’яўяцца жоўта-чырвоныя лагатыпы “Густ-2012”, якія дазволяць спажыўцам хутчэй зарыентавацца і знайсці прадукцыю глыбачан на прылаўках айчынных магазінаў. Дарэчы, вытворчасць тут смачнай і якаснай прадукцыі стала магчымай таму, што яшчэ некалькі гадоў назад пачалася яе мадэрнізацыя ў адпаведнасці з патрабаваннямі да якасці вырабаў Еўрасаюза і Расіі. На камбінаце раней укаранілі сістэмы менеджменту якасці СТБ ІСО 9001-20001, пачалі карэннае тэхнічнае пераўзбраенне свайго мясаперапрацоўчага корпуса. Глыбачане многае робяць і для дасягнення стопрацэнтнай глыбіні перапрацоўкі сыравіны, за што імя іх калектыва заносілася на абласную і рэспубліканскую Дошку гонару.

## Пастаўскі раён

# Дзейнічаў смела і рашуча

■ Кастусь Александровіч

**З пачатку года ў многіх кутках Прыдзвіння склалася складаная абстаноўка з пажарамі і загінуў у агні не адзін дзясятак чалавек.**

Вось і ў Пастаўскім раёне гэту сумную статыстыку з гібеллю людзей мог бы падвоіць выпадак у прыгараднай вёсцы Бакавічы, але жыццё мясцовай 53-гадовай жанчыны змог выратаваць работнік “Паставырайгазу” Павел Марціновіч. У той суботні дзень ён з жонкай на машыне ехаў у свой загарадны дом-дачу і заўважыў, як з адной вясковых хат паваліў чорны дым. Яе гаспадыня запаліла свечку ля абразоў у адным з пакояў і пайшла па сваіх справах, а калі вярнулася, разгубілася, адкрыла акно, што рабіць катэгарычна нельга. Агонь успыхнуў з яшчэ большай сілай, а жанчына страціла прытомнасць. А вось Павел разумеў, што тут бяда і адразу выклікаў па мабільніку выратавальнікаў. Яго не пускалі ў дом сабакі, але ён кінуўся ў моцна задымленую хату. З першага разу нікога не знайшоў, але адчуваў, што ў пакоі нехта ёсць. Ён выбег на вуліцу, набраў поўныя лёгкія свежага паветра і з другой спробы вынес пацярпелую на вуліцу да прыезду пажарных. Жанчыну змясцілі на лячэнне ў бальніцу з 17 % апёкамі цела, і яе здароўе пайшло на папраўку. А вось кіраўніцтва Пастаўскага райаддзела МНС будзе хадатайнічаць аб узнагароджанні Паўла Марціновіча, паколькі раней ён змог патушыць легкавушку на адной з вуліц райцэнтра, дзейнічаў як сапраўдны прафесіянал, калі быў на змене ў сваёй службовай машыне аварыйнай службы райгаза.

## Лепельскі раён

# Экавёска ля райцэнтра

■ Чэслаў Якубовіч

**Апошнім часам маштабная праграма жыллёвага будаўніцтва ў краіне рэзка запаволілася, а ў сельскай мясцовасці цяпер наваселлі сталі рэдкасцю.**

А вось Лепельскі раён стаў выключэннем, паколькі тут паблізу райцэнтра працягвае ўзводзіцца незвычайная вёска з экалагічна чыстых матэрыялаў. Спачатку падобную міжнародная дабрачынная арганізацыя “ЭкаДом” пабудавала на беразе возера Нарач Мядзельшчыне для сем’яў перасяленцаў, пацярпелых ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Затым валанцёры прапанавалі свае паслугі і на Віцебшчыне, выбралі для сябе пляцоўку побач з самім вялікім у гэтым раёне Лепельскім возерам. Па дамоўленасці мясцовыя ўлады забяспечылі інжынерныя камунікацыі і выдатную асфальтаваную дарогу. Астатняе зрабілі партнёры па праекце “Дамы замест Чарнобыля” і ўзвялі ў маляўнічай мясцовасці ўжо 26 дабротных дамоў па нямецкай экалагічна чыстай тэхналогіі. Для жыхароў новага пасёлка ля райцэнтра паўстаў і культурна-адукацыйны цэнтр, падобны на клуб, толькі больш цёплы, бо ўцеплены спецыяльнымі плітамі з трыснягу. Сёлета валанцёры здадуць пад ключ і энергаэфектыўны фельчарска-акушэрскі пункт з сонечнымі батарэямі на даху. У палове гэтага будынка прадугледжана і жыллё для медработнікаў. Дарэчы, такім чынам паблізу Лепеля штогод будуюць па 2-3 жылыя дамы і яны прастаяць на гэтай зямлі па 300 і болей гадоў, як і аналагічныя ў Германіі.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 14.02.13 | | | | Пятніца 15.02.12 | | | | Субота 16.02.13 | | | | Нядзеля 17.02.11 | | | | Пнд 18.02.13 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | -3 | -3 | -1 | -2 | -4 | -3 | -2 | -3 | -5 | -5 | -2 | -5 | -6 | -6 | -3 | -5 | -7 | -5 | -1 |
| Ціск | 758 | 758 | 757 | 756 | 755 | 754 | 753 | 753 | 753 | 753 | 753 | 753 | 753 | 753 | 753 | 753 | 752 | 750 | 747 |
| Вільготнасць | 87 | 89 | 77 | 87 | 86 | 85 | 76 | 88 | 87 | 92 | 77 | 90 | 86 | 92 | 73 | 85 | 83 | 90 | 83 |
| Вецер м/сек | 1 У | 2 У | 1 Пн-У | 2 Пн-У | 1 У | 2 Пн-У | 2 Пн | 3 Пн | 2 Пн-З | 2 Пн | 3 Пн | 3 Пн | 2 Пн-З | 2 Пн-З | 3 Пн-З | 3 Пн-З | 3 З | 2 Пд-З | 4 Пд-З |

## Аб самым надзённым

# У МЫТНЫМ САЮЗЕ БЕЛАРУСЫ - ЯЎНЫЯ АЎТСАЙДАРЫ, БО ДА НАС НЕ ІДУЦЬ СУР’ЁЗНЫЯ ЗАМЕЖНЫЯ ІНВЕСТЫЦЫІ

■ Аляксандр Цішкевіч.

**На жаль, на большасці айчынных заводаў і фабрык працуе зношанае і самае энергазатратнае ў Еўропе абсталяванне ( прыклад - тое ж ААТ “Віцязь” з лініямі зборкі тэлевізараў, зношанымі на 65,1 %). Беларускія нават вадкакрышталічныя тэлевізары – гэта пазаўчарашні дзень электронікі, а каштуюць даражэй лепшых заходніх аналагаў.**

Як і чакалася, у заключным месяцы сёлетняй зімы ў Год беражлівасці дзяржава прымусіла беларусаў эканоміць, бо з 1 лютага ўвялі дыферэнцыяваную сістэму аплаты насельніцтвам паслуг па электра- і газазабеспячэнню. А вось для вытворцаў і ўпраўленцаў цяпер паўсюдна галава колам ідзе з-за пастаянных размоў аб выкананні намечанай праграмы мадэрнізацыі айчыннага прамысловага комплексу і адначасова дасягнення росту ВУП адразу на 8,5 % ( у 2012 годзе ён вырас толькі на 1,5 %). Вось і ў Віцебску на нядаўнім пашыраным пасяджэнні аблвыканкама таксама абмяркоўвалі, як хутчэй правесці гэту складаную працу.

Перадусім зразумела, што часу для раскачкі ў нас проста няма пасля ўступлення асноўнага гандлёвага партнёра Расіі ў СГА і актывізацыі канкурэнцыі нават у адзінай эканамічнай прасторы з тымі ж партнёрамі па тройцы – казахамі. Пакуль беларусы адстаюць ад іх ужо па многіх паказчыках, а галоўнае ў некалькі разоў меней атрымоўваюць зарплаты, пенсіі, стыпендыі. А па -іншаму і быць не можа, паколькі, як адзначалася ў абласным цэнтры, толькі на Віцебшчыне асноўныя вытворчыя фонды зношаны на 55,5 % і 37 буйных прадпрыемстваў стратныя.

У такой сітуацыі, як заўважыў на пасяджэнні першы намеснік старшыні аблвыканкама У. Навацкі, 140 пунктаў абласной праграмы па мадэрнізацыі і тэхпераўзбраенні так і засталіся на паперы, а да 2015 года толькі ў вобласці на яе ажыццяўленне спатрэбіцца велізарная сума – 15 трыльёнаў рублёў. Прагучала, што чвэрць затрат будуць уласныя сродкі суб’ектаў гаспадарання, а 50 % - замежныя інвестыцыі. Дарэчы, па разліках спецыялістаў Мінэканомікі Беларусі, каб да 2015 года нам наблізіць сваю зарплату да 80 % ад узроўню краін-суседак, неабходна забяспечыць прыток прамых замежных інвестыцый у аб’ёме 17 млрд. долараў.

Але вось бяда: інвестары ў Беларусь практычна не ідуць. У выніку на аднаго занятага ў беларускай эканоміцы, па афіцыйных дадзеных, прыходзіцца па 274 $ інвестыцый, а ў Расіі з насельніцтвам у 15 разоў болей – 521 $, у Казахстане і таго больш – 925 долараў. Паколькі ў нас вельмі высокая доля ўдзелу дзяржавы ў эканоміцы, упэўнены ўсе эксперты-эканамісты, сістэмныя рэформы не ідуць, а замежны капітал тым больш ва ўмовах глабальнага крызісу абыходзіць Беларусь бокам. Адзіным сёлета выключэннем стала выдзяленне піўзаводу галандскай кампаніі Heineken у Бабруйску 5 млн. еўра крэдыту ад ЕБРР на капітальнае перааснашчэнне.

У астатнім, на жаль, на большасці айчынных заводаў і фабрык працуе зношанае і самае энергазатратнае ў Еўропе абсталяванне ( прыклад - тое ж ААТ “Віцязь” з лініямі зборкі тэлевізараў, зношанымі на 65,1 %). Беларускія нават вадкакрышталічныя тэлевізары–гэта пазаўчарашні дзень электронікі, а каштуюць даражэй лепшых заходніх аналагаў. Канешне, можна ўзмацніць адміністрацыйны націск на ўпраўленцаў, памяняць неіцыятыўных дырэктараў, камусьці даць крэдытную падтрымку ( на ўсіх дзяржпадтрымкі проста не хопіць), але агульную неспрыяльную для беларускіх тавараў за мяжой сітуацыю гэта не зменіць.

Дарэчы, нагадаем, папярэднія 2011 і 2012 гады новай пяцігодкі прынеслі сціплыя, калі не сказаць больш вынікі. Неабходных рэсурсаў і ўнутраных інвестыцый у Беларусі для запланавага рыўка і росту прадукцыйнасці працы ў 1,7 – 2 разы (каб мець сёлета зарплату 750-800 долараў) проста няма. А адны болей размовы і разносы публічныя могуць зноў закончыцца эканамічнымі правалам. І не дасягнем мы да 2015 года абяцаных 4-м Усебеларускім сходам паказчыкаў зарплаты 1000 долараў. Бяда ў тым, што нашы дырэктары проста не ведаюць сучасных схемы эфектыўнага менеджменту, іх гэтаму не вучылі.

Хоць і горка гэта гаварыць, але такі наш лёс слабаразвітых дзяржаў. Напрыканцы мінулага года, між іншым, у 4-м квартале было зафіксавана падзенне эканамічнага росту на 1,5 % да аналагічных паказчыкаў крызіснага 2011 года. Дык куды рухаецца і да чаго можа дайсці сёлета наша краіна? Самы верагодны сцэнарый, што і праграма мадэрнізацыі будзе выконвацца са скрыпам, па негатыўнаму сцэнарыю і не прынясе (хацелася б толькі памыліцца) жаданых вынікаў, на якія разлічваюць рулявыя беларускай эканомікі.

## Дзень за днём

**Гадавая інфляцыя ў Беларусі набрала разбег: толькі за тры тыдні студзеня сёлета цэны выраслі на 2,4 %. З больш 2,5 млн. беларускіх пенсіянераў кожны пяты (587 тысяч чалавек) працягвае працоўную дзейнасць, каб лягчэй пражыць. Кіраўнік дзяржавы А. Лукашэнка паабяцаў павышэнне заробкаў медработнікам і што з вясны ён пачне варушыць сферу аховы здароўя. У Еўропе беларуская эканоміка – адна з самых энергазатратных. Складскія запасы гатовай беларускай мэблі летась павялічыліся больш чым у 2 разы, страты 52 прадпрыемстваў галіны выраслі ў 30 разоў. У беларускіх школах урокаў фізікі і матэматыкі стане болей, а правілы паступлення ў айчынныя ВНУ сёлета мяняцца не будуць.**

# Важнейшыя навіны свету

**Аўстралія.** Адна з кампаній знайшла ў басейне Аркарынгі велізарныя радовішчы сланцавай нафты з запасамі аб'ёмам 233 млрд. барэляў, болей толькі ў Саудаўскай Аравіі.

**Іспанія.** Большасцю галасоў парламент правінцыі Каталонія прыняў дэкларацыю аб суверэнітэце сваёй тэрыторыі, тут можа адбыцца і рэферэндум аб аддзяленні ад Іспаніі.

**Егіпет.** Тэрмінам на 30 сутак прэзідэнт-ісламіст Махамед Мурсі ўвёў надзвычайнае становішча ў шэрагу гарадоў краіны, там людзі супраць жыць па законах шарыяту.

**КНДР.** Улады напоўгалоднай і адной з самых закрытых краін свету аб'явілі аб правядзенні 3-х па ліку выпрабаванняў ядзерных ракет супраць заклятага ворага ЗША.

**Казахстан.** Пасля абмежавання колькасці запускаў расійскіх ракет з касмадрома Байканур урад краіны атрымаў ультыматум на 500 мільёнаў долараў ад МЗС Расіі.

**Украіна.** Эпахальным для краіны назвала газета Financial Times пагадненне з фірмай Royal Dutch Shell аб геаразведцы і здабычы сланцавага газу, па запасах трэцяга ў Еўропе.

**Сірыя.** Па загаду дыктатара Б. Асада самалёты сірыйскіх урадавых ВПС толькі за адзін дзень вайны са сваім народам 8 разоў бамбілі буйны прыгарад сталіцы – Дарая.

**Чэхія.** Упершыню чэхі выбралі сабе прамым галасаваннем новага прэзідэнта, былога прэм'ер-міністра Мілаша Земана, ён прыступіць да сваіх абавязкаў 8 сакавіка.

**Англія.** Прэм'ер-міністр еўраскептык Дэвід Кэмеран паабяцаў брытанцам правесці рэферэндум аб далейшым членстве краіны ў ЕС, назваў еўраінтэграцыю памылкай.

**Японія.** Упершыню ў свеце вучоныя з універсітэта Кіёта стварылі фрагменты нырак чалавека з індывідуальных чалавечых клетак, толькі 300 тыс. японцаў патрэбна іх замена.

**Бразілія.** Ад атраўлення прадуктамі гарэння каля 240 чалавек загінулі падчас пажару пасля шоу піратэхнікі ў начным клубе Kiss у горадзе Санта-Марыя на поўдні краіны.

**ПАР.** Пасля моцных праліўных дажджоў з адной буйной паўднёваафрыканскіх ферм па вырошчванні кракадзілаў збеглі 15 тысяч драпежнікаў, з іх злавілі нямногіх уцекачоў.

**Швейцарыя.** Выканкам УЕФА вырашыў, што гульні чэмпіянату Еўропы 2020 года па футболе пройдуць адразу ў 13 гарадах кантынента, дзе ёсць сучасныя стадыёны.

**Украіна.** Вядомы прадзюсер і кампазітар Канстанцін Меладзе ўзяў на ўтрыманне да дасягнення 18 гадоў двух дзяцей збітай ім на джыпе жанчыны на трасе Кіеў-Абухаў.

**Аўстралія.** Другі год запар беларуска Вікторыя Азаранка стала пераможцам у фінале турніра па тэнісе "Аўстраліян Оўпен" і захавала за сабой тытул першай тэнісісткі свету.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Салігорск.** Беларуская калійная кампанія да 30 чэрвеня 2013 года заключыла кантракт на пастаўку ўгнаенняў у Кітай, але па цане на 70 долараў меней за тону (летась было 470 $).

**Мінск.** Як заявіў міністр адукацыі Беларусі Сяргей Маскевіч, не плануецца ў краіне вяртацца да заняткаў у школах па суботах, рабіць гэты дзень цалкам вучэбным для дзяцей.

**Гродна.** Пракуратура выявіла, што 18 тысяч жыхароў вобласці заняты нелегальным гандлем з Польшчай і Літвой, прапанавала пазбавіць іх бясплатнай медыцыны.

**Шклоў.** Урад Беларусі дапамог стратнай мясцовай папяровай фабрыцы "Спартак" пагасіць банкаўскі экспартны крэдыт у суме 17,3 мільёна еўра, у яе шмат цяжкасцей.

**Гомель.** Чацвёра выратавальнікаў МНС атрымалі апёкі твару ад выбуху бочкі з гаручазмазачнымі матэрыяламі падчас тушэння пажару ў нежылым доме ў вёсцы Клімаўка, якіх не папярэдзілі аб ёмкасці.

**Тураў.** На ўездзе ў горад замежныя спецыялісты пачалі мантаж абсталявання на самым сучасным у РБ малочным камбінаце па выпуску маладых сыроў коштам 50 млн. еўра.

**Брэст.** Для забеспячэння больш зручных перавозак пасажыраў Беларуская чыгунка прызначыла па пятніцах дадатковы рэйс эканом-класа, дарога з Мінска меней 4,5 гадзін.

**Лагойск.** Аднаго з кіраўнікоў райгаза Следчы камітэт абвінаваціў у службовай халатнасці, калі з-за ўцечкі газу летась узарваўся 3-павярховы дом, 1 чалавек загінуў, 15 пацярпелі.

**Мінск.** Два экіпажы грузавікоў сталічнага МАЗа змаглі прайсці ўсю сусветна вядомую гонку "Дакар-2013" і сярод 75 машын фінішавалі на 21-м і 27-м выніковых месцах.

**Слуцк.** Супраць двух маладых гараджан ва ўзросце 24 і 26 гадоў распачалі крымінальную справу за злоснае хуліганства: яны пагражалі ўзарваць гранату ў дызелі на Салігорск.

**Мінск.** Жыхары мікрараёна Усход пачалі збор подпісаў супраць зносу новага аўтавакзала "Маскоўскі" і пабудовы на яго месцы офіса-хмарачоса расійскай кампаніі "Газпрам".

**Скідаль.** Ніхто з 54 дзетак не пацярпеў падчас пажару ў яслях-садзе № 4, малых умела эвакуіраваў днём персанал адразу, як спрацавала сістэма апавяшчэння аб узгаранні.

**Раўбічы.** Шэраг афіцэраў запасу КДБ і Мінабароны заявілі аб рэйдэрскім захопе іх зямельных участкаў тут і ўдзеле ў гэтым зяця экс-прэм'ер-міністра РБ С. Сідорскага.

**Гомель.** У абласным цэнтры адкрылі новую сучасную вяслярную базу СДЮШАР № 6 з трыма заламі, 4 элінгамі, медыцынска-аднаўленчым цэнтрам коштам 28 млрд. рублёў.

**Мінск.** Ёсць усе прыкметы таго, заявіў начальнік Дзяржінспекцыі аховы жывёльнага свету РБ С. Новікаў, што ў Докшыцкім раёне алені масава загінулі ад таго, што іх атруцілі.

# Віцебская міліцыя хоча зачыніць начныя крамы




■ Анастасія Бут

Здавалася б, няма нічога дрэннага ў тым, што ў цёмны час сутак людзі ходзяць за пакупкамі туды, дзе не бывае таўкучкі і доўгіх чэргаў. Вось толькі за якімі менавіта таварамі адпраўляюцца ў «начнікі»? За хлебам? Мясам? Можа быць, за падарункам дзіцяці да дня нараджэння? Вядома, сёй-той з прычыны спецыфікі сваёй працы выбіраецца ў краму пад канец дня менавіта за гэтым. Але большасць усё ж атаварваецца алкагольнай прадукцыяй. Праваахоўнікі прагледзелі запісы відэакамер у такіх гандлёвых аб'ектах і на падставе ўбачанага падрыхтавалі паперу прадстаўнікам улады з прапановай зачыніць «начнікі». Па словах начальніка УУС Віцебскага аблвыканкама Ігара Яўсеева, крамы ў такі час наведваюць у асноўным людзі на падпітку. І бяруць яны зусім не дзіцячае харчаванне, а менавіта спіртныя напоі. Наогул, праблему алкагалізацыі паднімаюць на разнастайных калегіях, канферэнцыях, сходах розныя службы. Праваахоўнікі - асабліва часта, бо п'янства - гэта прычына большасці правапарушэнняў. Пасля распіцця алкаголю часцяком здараюцца крадзяжы, рабаванні, разбоі, згвалтаванні і нават забойствы. А пасля таго, што здарылася, вінаватыя толькі рукамі разводзяць, маўляў, гэта ўсё гарэлка!- Самы дзейсны метад барацьбы з п'янствам - накіраванне ў лячэбна-працоўныя прафілакторыі, - упэўнены Ігар Яўсееў. - Мы па гэтых паказчыках займаем другое месца пасля Мінска: у ЛПП накіравалі ў мінулым годзе 871 чалавека. У студзені 2013-га - ужо 95. У першую чаргу тых, хто схільны да здзяйснення злачынстваў на бытавой глебе, раней судзімых. П'яніц таксама абмяжоўваюць у дзеяздольнасці, ставяць на ўлік да нарколага, дзякуючы падтрымцы аховы здароўя бясплатна кадуюць. Пасля ўступлення ў сілу новага Жыллёвага кодэкса, дзе будзе афіцыйна замацавана магчымасць высялення так званых праблемных жыхароў, міліцыя разам з работнікамі ЖКГ актыўна зоймецца «буянымі» п'яніцамі і тымі, хто неаднаразова прыцягваўся да адміністрацыйнай адказнасці за парушэнне правілаў карыстання жылымі памяшканнямі або арганізаваў прытон. Ім дадуць квадратныя метры з менш камфортнымі ўмовамі, магчыма, нават у іншых населеных пунктах.

Праўда, правапарушэнні здзяйсняюць і цвярозыя людзі. Так, у 2012-м у адным з віцебскіх крам мужчына, пагражаючы нажом прадаўцу, забраў з касы выручку (каля 27 мільёнаў рублёў) і схаваўся. Хутка знайсці вінаватага атрымалася дзякуючы «трывожнай» кнопцы і камеры відэаназірання, якая зафіксавала зламысніка.

У цэлым праваахоўнікі нашага рэгіёну па выніках мінулага года шмат у чым апынуліся на перадавых пазіцыях у параўнанні з іншымі абласцямі краіны. Важным крытэрыем у працы праваахоўнікаў з'яўляецца не толькі лічбавы падлік раскрытых правапарушэнняў і зніжэнне колькасці парушэнняў, але і ўзровень даверу грамадзян, а гэты паказчык на Віцебшчыне ў параўнанні з іншымі рэгіёнамі - адзін з лепшых.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Наваполацк.** Усяго за 76,5 мільёна долараў прыватная фірма "Інтэрсервіс" па гандлі нафтай бізнесмена М. Вараб'я набыла кантрольны пакет акцый вядомага вытворцы "Амкадора".

**Віцебск.** Новы глава канцэрна "Беллеспапераправ" Аляксандр Пераслаўцаў запэўніў, што ў першым паўгоддзі 2013 года мадэрнізацыя на ААТ "Віцебскдрэў" будзе завершана.

**Паставы.** Мясцоваму льнозаводу выдзелілі 28 мільярдаў рублёў для закупу ў Бельгіі сучаснай лініі па выпуску доўгага валакна, яна размесціцца ў новым цэху, які пачалі ўжо ўзводзіць.

**Орша.** Прама на службе застрэліўся ў кабінеце з табельнага пісталета падпалкоўнік міліцыі, намеснік камандзіра мясцовага батальёна Дэпартамента аховы МУС Беларусі.

**Полацк.** Першым у вобласці старшыня гарвыканкама Аляксандр Пазняк пачаў весці ў газеце "Полацкі веснік" штотыднёвую аўтарскую калонку "7 дзён і падзей вачамі мэра".

**Віцебск.** Тэлезавод "Віцязь" з загрузкай толькі на 20 % магутнасцей Міністэрства прамысловасці РБ загадала выпускаць і шэраг марак сучасных тэлевізараў "Гарызонт".

**Сянно.** Да 3-х гадоў пазбаўлення волі суд прыгаварыў урача-хірурга раённай бальніцы, які за грошы стаў выпісваць пацыентам ліпавыя бальнічныя лісткі часовай непрацаздольнасці.

**Шуміліна.** У магазіне "Смак" райцэнтра праверка выявіла прадукты харчавання, тэрмін годнасці якіх скончыўся 74 дні назад, шмат у якіх магазінах не захоўваўся асартымент тавараў.

**Лепель.** На вопытным рамонтна-механічным заводзе, філіяле МТЗ з пачатку года адбыліся ўжо 2 няшчасныя выпадкі на вытворчасці, 3 яго работнікі атрымалі цяжкія раненні.

**Глыбокае.** На абласным этапе прадметных алімпіяд школьнікі Глыбоччыны зноў паказалі сябе лепшымі - выступілі лепш за ўсе раёны вобласці і прывезлі дамоў 13 дыпломаў розных ступеней.

**Чашнікі.** Традыцыйны вечар сустрэчы выпускнікоў у Кашчынскай СШ аказаўся самым прадстаўнічым і цікавым: буйнейшая ў раёне вясковая школа адзначыла сваё 50-годдзе.

**Бешанковічы.** У найбольшым у раёне Верхнекрывінскім сельсавеце з 55 вёсак поўнасцю абязлюдзелі яшчэ 4 – Корабава, Навумаўка, Целяпы і Буднікі, тут памерлі за год адразу 33 жыхары.

**Віцебск.** Адразу трох жанчын, работніц кафэ змог абакрасці 23-гадовы беспрацоўны гараджанін, які змог днём непрыкметна залезці ў памяшканне праз падсобку.

**Орша.** Даўно такога не было, каб за тры тыдні ў студзені ў мясцовым радзільным доме нарадзілася 96 хлопчыкаў і дзяўчынак і сярод іх – адразу сёлета нарадзіліся нават тры двойні.

**Полацк.** Вельмі моцныя апёкі цела атрымаў 62-гадовы прадпрымальнік, уладальнік рыбалоўнага кіёска на рынку, у якога ўзарваўся газавы балон, прызначаны для абагрэву памяшкання.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

Людміла Ардынская

*Памяці продкаў-беларусаў*

### Жыццё

Славяне засявалі поле жытам.
"Жыццё" – назвалі так жытнёвую палоску.
Ішоў мой продак па зямлі з сявенькай босы,
У ільняной кашулі з галавою непакрытай.
Ашчадна жменькаю раскідваў ён зярняткі
І крок за крокам засяваў сваю палоску.
Быў сейбітам, так вызначана лёсам.
І сваю справу перадаў нашчадкам.
А колькі перажыў той продак бедаў!
І больш чым светлых у жыцці палосаў,
Тырчала чорнае апаленае восце
Гадоў нягод, нястач, якія зведаў.
Апошняя вайна яго знішчала род.
Загінулі сыны, нявестка і ўнукі.
Астатні гарнец жыта ўзяў у рукі,
Каб уратаваць людзей у галодны год.
Мой дзед Ілля той руні не ўбачыў,
Хоць усе зярняткі ніўцы ён аддаў.
І жыта сеяў, хоць і паміраў,
І не чакаў, што хтось яму аддзячыць.

### Завіруха

Завіруха белая ўночы загуляла.
Замецццю старанна сцежкі засыпала.
Госцяй незапрошанай у поле завітала,
Змерзлы куст калінавы ў гурбе пахавала.
Над ракой пранеслася з ветрам ашалела,
Берагі пакінула ў сумётах белых.
Да сяла дабралася за хвіліну лёту.
Раніцай стамілася ды злягла пад плотам.

### Яблынька ў сне.

Белыя сумёты. Сад зімовы спіць.
У снежным каралеўстве яблынька стаіць.
Дыяменты з інею падарыў Мароз.
Усе ўпрыгожанні з лесу ён прынёс.
Ходзіць каля яблынькі і красуні рады.
Холадна ёй, бачыць у сне маёвы сад.
Па прасторы ходзіць у вянку Вясна.
Шчодра дорыць квецень дрэўцам усім яна.
Сон той збыўны яблыньцы дае моцы жыць.
І мароз, і холад люты перажыць.



Вёска Радзюкі. Зімовы сад у шэрані.

## Паведамі пра няшчасныя сем'і!

■ **А.І. Гігола,**
*начальнік аддзела аховы правапарадку і прафілактыкі Глыбоцкага РАУС.*

Сямейнае няшчасце схаваць немагчыма! Проста асобныя людзі імкнуцца не заўважаць таго, што іх не датычыць наўпроста. З 04 па 13 лютага 2013 года аддзел унутраных спраў Глыбоцкага раённага выканаўчага камітэта праводзіць комплекс мерапрыемстваў па прафілактыцы правапарушэнняў, якія здзяйсняюцца ў сферы сямейна-бытавых адносін, папярэджанню п'янства і алкагалізму, фармаванню здаровага ладу жыцця грамадзян.

Кожны чалавек, які паведаміць пра няшчасныя сем'і па тэлефонах: МТС 597-21-74, Велком 314-89-02, 2-26-82, 2-27-02 ці 102, можа прыняць удзел у гэтым мерапрыемстве і аказаць дапамогу людзям, падвергнутым супрацьпраўным замахам!

## МНС інфармуе
**на 12.02.2013 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 148;
Гібель людзей – 34, з іх 1 дзіця;
Урон – 620.9 млн. руб.
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 9;
Гібель людзей – 2, з іх дзяцей няма;
Урон – 90.8 млн. руб.

# Выйшаў альбом працаў легендарнага мастака Язэпа Драздовіча

■ **Кастусь Шыталь**

**Альбом працаў беларускага мастака Язэпа Драздовіча выйшаў у выдавецтве "Беларусь" у серыі "Славутыя мастакі з Беларусі". У невялікага памеру кніжцы сабрана 35 твораў вечнага вандроўніка з Дзісненшчыны.**

Больш за палову твораў складаюць фантазіі Драздовіча на тэму жыцця ў космасе, якія мастак актыўна адлюстроўваў на палатне ў міжваенны час. Ёсць замалёўкі беларускіх гарадоў і мястэчак, а таксама славутыя маляваныя дываны, якія Язэп Драздовіч рабіў на замову сялянаў, бадзяючыся па вёсках сучасных Глыбоцкага і Шаркаўскага раёнаў.

Добры тэкст пра Язэпа Драздовіча, які напісала мастацтвазнаўца Надзея Усава, надрукаваны пабеларуску, па-расійску і паангельску.

Мабыць, з ідэалагічных прычынаў у зборнік не ўвайшла "Пагоня Ярылы" – адзін з самых вядомых твораў Язэпа Драздовіча, дзе ў стылі сімвалізму адлюстраванае адраджэнне Бацькаўшчыны: вершнік на кані ў небе, кіпцюры цмока ды каменны крыж з надпісам Vivat Albarudsia Liberta на зямлі.

Рэпрадукцыі працаў Драздовіча выдаваліся ў Беларусі ў 2002 годзе, калі выйшаў вялікі альбом-манаграфія. Але сёння яго не знойдзеш днём з агнём.




Арыгіналы ж маляваных дываноў можна пабачыць у экспазіцыі дзяржаўнага музея імя Драздовіча ў Германавічах (Шаркоўшчынскі раён).

Альбом "Язэп Драздовіч" варта мець у хаце кожнаму глыбачаніну – каб часам разгарнуць і ўзгадаць нашага славутага земляка. Таксама ён можа стаць добрым падарункам для гасцей.

# Капрамонт у кватэры будзе аплачваць уласнік жылля, паведаміў намеснік міністра ЖКГ

**Капрамонт, які будзе праводзіцца ў кватэры, будзе аплачваць уласнік жылля, паведаміў намеснік міністра жыллёва-камунальнай гаспадаркі Анатоль Шагун на прэс-канферэнцыі ў Мінску 7 лютага.**

Паводле яго слоў, прыблізна 86% жыллёвага фонду знаходзіцца ва ўласнасці грамадзян. Згодна са зменамі ў Тэхнічным кодэксе, якія «ўвойдуць у дзеянне найбліжэйшым часам, будуць скарочаны віды работ пры капрамонце, што выконваюцца за кошт бюджэтных сродкаў». Усе работы, якія будуць праводзіцца ў кватэры ўласніка, «будуць аплачваць ім». Размова ідзе пра падводку і разводку сістэмы водазабеспячэння і каналізацыі, замену электрыкі, вокнаў. Паводле ацэнкі міністэрства ЖКГ, новаўвядзенне дазволіць прыкладна на 30% знізіць затраты бюджэтных сродкаў на правядзенне капрамонту жылога фонду. У сваю чаргу «павялічацца аб'ёмы капрамонту на тыя ж 30%». Намеснік міністра падкрэсліў, што «аб'ёмы капітальнага рамонту міністэрства не плануе змяншаць».

Шагун прызнаў, што некаторыя віды работ будуць дастаткова дарагімі для насельніцтва, таму прадугледжана аплата ў растэрміноўку, што будзе прапісвацца ў дагаворы на правядзенне капрамонту. Кажучы пра магчымасць крэдытавання работ па капітальным рамонце, а таксама цеплавой мадэрнізацыі жылых дамоў, Шагун зазначыў, што ў Беларусі няма «дастатковых даступных крэдытных рэсурсаў для таго, каб на працяглы тэрмін пракрэдытаваць насельніцтва».

*Алена Спасюк, БелаПАН.*

# У Беларусі да пажыццёвага зняволення прыгаворана прыкладна 140 чалавек

**У Беларусі да пажыццёвага зняволення прыгаворана прыкладна 140 чалавек. Больш як 80 з іх адбываюць пакаранне ў турме № 8 у Жодзіне. Пра гэта расказваецца ў матэрыяле «Прыгавораныя па жыцці», апублікаваным у апошнім нумары газеты МУС Беларусі «На страже».**

Паводле слоў начальніка атрада па арганізацыі выканання пакарання ў выглядзе пажыццёвага зняволення Васіля Занкевіча, у турме ёсць раней судзімыя і несудзімыя, зусім непісьменныя і тыя, у каго не адзін дыплом аб вышэйшай адукацыі.

«Самаму старэйшаму пастаяльцу турмы было 60 гадоў, калі яго перавялі на палепшаныя ўмовы ўтрымання ў ПК-13 у Глыбокае: прагулкі даўжэй, пасылак, перадач і спатканняў больш, а замест камеры — жылое памяшканне казармавага тыпу, — гаворыць супрацоўнік пенітэнцыярнай сістэмы. — Такая магчымасць з'яўляецца ва ўсіх жодзінскіх пажыццёвікаў пасля дзесяці гадоў знаходжання ў турме пры ўмове адсутнасці сур'ёзных парушэнняў правіл унутранага распарадку. Яшчэ праз дзесяць гадоў адміністрацыя калоніі мае права хадайнічаць перад судом пра замену пажыццёвага зняволення на пэўны тэрмін пазбаўлення волі».



У матэрыяле расказваецца, што «ў «васьмёрцы» спецкантынгент сочыць за навінамі з тэлепраграм і друкаваных выданняў, спадзеючыся на паслабленні ў заканадаўстве. Акрамя таго, вывучаюць мовы, выпісваюць з прапанаванага каталога літаратуру. Раз на дзесяць дзён сядзельцам выдаюцца кнігі і прэса з турэмнай бібліятэкі. Як правіла, пачынаюць з лёгкіх рэчаў, але потым задумваюцца пра жыццё і пераходзяць на класіку. Папулярныя Дастаеўскі, Пушкін, Купрын, Бунін, гістарычныя творы».

**Самаму старэйшаму пастаяльцу турмы было 60 гадоў, калі яго перавялі на палепшаныя ўмовы ўтрымання ў ПК-13 у Глыбокае...**

У камерах у зняволеных ёсць разетка, радыёкропка, кнопка выкліку дзяжурнага кантралёра. Кожныя 15 хвілін дзяжурны глядзіць у вочка. Пасля адбою хадзіць па камеры забаронена. Можна хіба што схадзіць па патрэбе. Асвятленне ноччу слабое, але яго дастаткова, каб супрацоўнікам весці назіранне, а зняволеным спакойна спаць. Парушальнікаў рэжыму ўтрымання могуць змясціць у штрафны ізалятар на тэрмін да 10 сутак.

Рэжым надзвычай суровы, адзначаецца ў матэрыяле. За межамі жылога сектара асуджаным з пазнакай «ПЗ» на робе перамяшчацца дазволена, сагнуўшыся напалову, ногі шырэй за плечы, рукі ў наручніках ззаду, высока паднятыя, пальцы растапыраныя. Паднімаць галаву, разгінацца забаронена, каманды выконваюцца неадкладна, кожнага асуджанага суправаджаюць два кантралёры з сабакам. Прагулка ў асуджаных — 30 хвілін. Дворык для прагулак — такая ж камера, толькі замест столі — краты.

У год зняволенаму пажыццёва дазваляецца адна пасылка да 30 кг, два кароткатэрміновыя спатканні да чатырох гадзін, два разы на месяц можна атаварыцца ў магазіне ізалятара па безнаяўным разліку. Магчыма атрыманне кніжнай бандэролі і рэчавай перадачы.

*Вячаслаў Будкевіч, БелаПАН.*

# На Запусты – вершаў густа

■ Іна СНЯЖКОВА.
*Фота Альфрэда Мікуса.*

**Каталіцкія Запусты (або Карнавал) звычайна суправаджаюцца маскарадамі, шэсцямі, гульнямі і традыцыйнымі стравамі. У Лучайскім касцёле св. Юды Тадэвуша свята ладзілася 10 лютага і прайшло без усіх вышэйпералічаных забаў. Але ад гэтага не стала менш яркім і запамінальным.**



Традыцыя адзначаць запусты з'явілася ў даўнія часы. Калі аснову эканомікі складала сельская гаспадарка, калі посту прытрымліваліся вельмі строга, а зімовы час даваў селяніну доўгачаканы адпачынак ад бясконцых турботаў, тады карнавал перад Вялікім постам быў самым бесклапотным перыядам у годзе. На сталах яшчэ панавалі тлустыя, мясныя стравы (нездарма існавала прыказка: "На запусты не хоча паньства капусты"), на двары не сціхалі песні і не спыняліся танцы.

Сучасныя каталікі і праваслаўныя не разгублялі старадаўніх традыцый, яны захоўваюцца ў шматлікіх хрысціянскіх гарадах і рэгіёнах. А часам адзначаюцца па-новаму…

У Лучаі заканчэнне карнавалу адбылося… музычна-паэтычным. Пасля Святой Імшы ў касцёле выступілі вядомыя ў Беларусі і за яе межамі аўтары — паэт Леанід Дранько-Майсюк і паэт, бард Эдуард Акулін.

На Пастаўшчыне яны прэзентавалі свае творы ўпершыню. Леанід Васільевіч, паэт адметнага стылю, сапраўдны майстар беларускага слова, прачытаў свае вершы, у якіх прызнаўся ў каханні да Беларусі, мовы, жыцця.

— Мне вельмі прыемна выступаць перад вамі ў гэтых намоленых сценах, — звярнуўся паэт да прыхаджан, сярод якіх было нямала гасцей з іншых парафій. — Я наведаў бадай усе еўрапейскія сталіцы — быў у Афінах, Брусэлі, Парыжы, Берліне… Але заўсёды з вялікім задавальненнем прыязджаю ў вёску. Тут асаблівая атмасфера. Я вельмі рады, што мне пашчасціла пабываць у гэтых дзівосных мясцінах, на радзіме генія беларускай літаратуры Уладзіміра Дубоўкі. Спадзяюся, што сюды яшчэ давядзецца вярнуцца…

**Каля гадзіны лілася ў касцёле беларуская мова — сапраўдная, сакавітая, якую сёння так рэдка пачуеш…**

Самыя найлепшыя ўражанні ад Лучая засталіся і ў Эдуарда Акуліна. Яго выступленне выклікала непадробнае захапленне прысутных. Шчырыя пранізлівыя вершы, такія ж песні — так не хацелася, каб яны пераставалі гучаць! Дарэчы, адну з самых знакамітых песень барда — "Янка Купала" — прысутныя праспявалі разам.

Вершы і песні — не адзіныя падарункі, якія прывезлі з сабой сталічныя госці. Эдуард Акулін уручыў мясцоваму ксяндзу Мікалаю Ліпскаму дыскі з уласнымі песнямі, часопісы "Дзеяслоў" (бард працуе намеснікам рэдактара гэтага выдання), кнігі беларускіх паэтаў і публіцыстаў. Леанід Дранько-Майсюк пакінуў на памяць зборнікі сваіх твораў: раздаў і падпісаў іх усім жадаючым.

На памяць ад лучайцаў творцы атрымалі абразы заступніка парафіі — святога Тадэвуша і шматлікія словы ўдзячнасці.

Каля гадзіны лілася ў касцёле беларуская мова — сапраўдная, сакавітая, якую сёння так рэдка пачуеш… Мы, прысутныя, атрымалі вялікую асалоду ад яе незвычайна прыгожага, шчырага гучання. Дзякуй паэтам, якія знайшлі час наведаць пастаўскую глыбінку, і, безумоўна, арганізатарам — Таццяне Бензе і Мікалаю Ліпскаму — за магчымасць сустрэцца з надзвычай таленавітымі майстрамі роднага слова.





Паэт і бард Эдуард Акулін.



Паэт Леанід Дранько-Майсюк.




Ксёндз Мікалай Ліпскі.

# Наваполацкія будаўнікі ствараюць купалы для цэркваў

■ Дар'я Міхайлоўская

**Будаўнічае ўпраўленне № 126 - філіял «Трэст № 16 г. Наваполацк» мае цяпер незвычайны профіль работы – стварэнне царкоўных купалоў. А Свята-Васкрасенскі храм упрыгожыла вялікая фрэска.**

Бляхары заняліся гэтым па просьбе арцыбіскупа Полацкага і Глыбоцкага Феадосія. Адшукаць у Беларусі вытворцаў храмавых купалоў цяжка, таму ўладыка звярнуўся за дапамогай да мясцовых будаўнікоў і знайшоў разуменне.

Купалы робіць брыгада бляхараў пад кіраўніцтвам Андрэя Макарава - уладальніка наваполацкай гарадской працоўнай прэміі «Залатыя рукі». За тры тыдні быў гатовы купал вышынёй 4,9 м і дыяметрам 4,5 м. Ён увянчае храм Святога Ціхана ў пасёлку Фарынава пад Полацкам. Гэтая царква замовіла будаўнікам яшчэ купал і для званіцы.

Навапалачане маюць намер удасканальвацца ў новай для сябе справе і вырабляць святыні і для іншых цэркваў.




# Самыя папулярныя дзіцячыя імёны ў Мінску – Арцём і Марыя

**Сярод рэдкіх імёнаў — Вітаўт, Марсэль, Кевін.**

**Мінчане ў 2012 годзе часцей за ўсё называлі дзяцей Арцёмам, Аляксеем, Марыяй і Ганнай.**

Пра гэта паведаміла начальнік аддзела прававога абслугоўвання грамадзян, арганізацый і ідэалагічнай работы галоўнага ўпраўлення юстыцыі Мінгарвыканкама Алена Сушко.

Таксама сярод папулярных імёнаў — Дар'я, Сафія, Анастасія, Максім, Данііл, Уладзіслаў.

Рэдкія мужчынскія імёны — Вітаўт, Прохар, Марсэль, Кевін, жаночыя — Славяна, Любава, Агрыпіна, Селін.

Усяго ў 2012 годзе ў загсах зарэгістравана больш за 25,1 тыс. нараджэнняў, што на 1,5 тыс. больш, чым у 2011 годзе. Больш за ўсё дзяцей нарадзілася ў Маскоўскім і Фрунзенскім раёнах, дзе актыўна вядзецца жыллёвае будаўніцтва. Самай маладой маці споўнілася 16 гадоў, самай сталай — 47, самому маладому бацьку было 18, самому сталаму — 58 гадоў.

Што тычыцца заключэння шлюбу, то ў Мінску летась афармілі адносіны больш як 15,5 тыс. пар, у тым ліку 1 227 шлюбаў былі заключаны з замежнікамі, 70 — з непаўнагадовымі.

*БелТА*

# Асоба ахоўваемыя прыродныя тэрыторыі Глыбоччыны

**Аляксей Протас,**
*начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

На тэрыторыі Глыбоцкага раёна шмат унікальных прыродных месцаў, якія маюць адмысловы ахоўны дзяржавай статус, адмысловы рэжым іх утрымання і аховы, гаспадарчай і іншай дзейнасці. Усё гэта завецца асоба ахоўваемыя прыродныя тэрыторыі.

Асоба ахоўваемыя прыродныя тэрыторыі, што гэта такое? Закон Рэспублікі Беларусь ад 20 кастрычніка 2004 года «Пра асоба ахоўваемыя прыродныя тэрыторыі» вызначае як: участкі зямлі (уключаючы атмасфернае паветра над імі і нетры) з унікальнымі, эталоннымі ці іншымі каштоўнымі прыроднымі комплексамі і аб'ектамі, якія маюць адмысловае экалагічнае, навуковае, гісторыка-культурнае і іншае значэнне, вынятыя цалкам ці часткова з гаспадарчага звароту, у адносінах якіх усталяваны адмысловы рэжым аховы і выкарыстання.

Катэгорыі і віды асоба ахоўваемых прыродных тэрыторый вызначаецца з залежнасці ад асаблівасцяў прыродных комплексаў і аб'ектаў, якія падлягаюць адмысловай ахове.

Усталёўваюцца наступныя катэгорыі асоба ахоўваемых прыродных тэрыторый:

- запаведнік,
- нацыянальны парк,
- заказнік,
- помнік прыроды.

Запаведнікі і нацыянальныя паркі з'яўляюцца асоба ахоўваемымі прыроднымі тэрыторыямі рэспубліканскага значэння.

Заказнікі і помнікі прыроды могуць быць асоба ахоўваемымі прыроднымі тэрыторыямі рэспубліканскага ці мясцовага значэння.

Усяго на тэрыторыі Віцебскай вобласці маецца 21 заказнік рэспубліканскага значэння, 71 заказнік мясцовага значэння і 54 помнікі прыроды

На тэрыторыі Глыбоцкага раёна таксама маецца шэраг асоба ахоўваемых прыродных тэрыторый, як рэспубліканскага, так і мясцовага значэння. Да заказнікаў рэспубліканскага значэння адносяцца гідралагічныя заказнікі возера Доўгае і Белае, якія абвешчаны асоба ахоўваемымі прыроднымі тэрыторыямі Пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 27.12.2007 года № 1833 і перададзены пад ахову ГПУ «Галубоў сад», а таксама гідралагічны заказнік возера Сэрвач. Да помнікаў прыроды рэспубліканскага значэння адносіцца Глыбоцкі дэндралагічны сад, які перададзены пад ахову ГЛХУ «Глыбоцкі доследны лясгас».

Таксама на тэрыторыі раёна маецца шэраг заказнікаў і помнікаў прыроды мясцовага значэння, такія як: батанічны помнік прыроды «Парк «Залессе», гідралагічныя заказнікі «Галубіцкая пушча» і «Гурбы», ландшафтныя помнікі прыроды «Кавалеўская гара», «Зябкаўскае ўзвышша» і шэраг іншых заказнікаў і помнікаў прыроды.

На тэрыторыі ўсіх асоба ахоўваемых прыродных тэрыторый усталёўваецца адмысловы рэжым іх функцыянавання, абмяжоўваецца ці цалкам забараняецца гаспадарчая дзейнасць. Любая дзейнасць, якая пагражае іх захаванасці, забараняецца.

Вельмі часта пры правядзенні прыродаахоўных мерапрыемстваў, дагляд зе транспарту, дакументаў і іншых дзеяннях на асоба ахоўваных прыродных тэрыторыях супрацоўнікі, якія ажыццяўляюць іх ахову, сутыкаюцца з неразуменнем грамадзян. Аднак, глава 6 Закона «Пра асоба ахоўваемыя прыродныя тэрыторыі» артыкул 43 дае права работнікам, якія ажыццяўляюць ахову асоба ахоўваемых прыродных тэрыторый (ААПТ) :

– беспярашкодна наведваць любыя аб'екты, якія знаходзяцца на ААПТ, з мэтай праверкі выканання заканадаўства Рэспублікі Беларусь пра ААПТ,

– правяраць у асобаў, якія знаходзяцца на ААПТ, наяўнасць дакументаў на права знаходжання на гэтых тэрыторыях,

– праводзіць у межах ААПТ і іх ахоўных зон нагляд транспартных сродкаў і асабістых рэчаў.

– затрымоўваць у межах ААПТ і іх ахоўных зон асобаў, якія парушылі заканадаўства РБ «Пра ААПТ», і дастаўляць іх у праваахоўныя органы.

– канфіскоўваць у парушальнікаў незаконна здабытую на ААПТ здабычу і прылады яе здабычы,

– складаць адміністрацыйныя пратаколы на парушальнікаў прыродаахоўнага заканадаўства Рэспублікі Беларусь.

Шмат якія грамадзяне парушаюць рэжым аховы асоба ахоўваемых прыродных тэрыторый, але, як правіла, з-за простага няведання іх статусу, бо інфармацыі пра такія месцы, рэжыме іх утрымання вельмі мала.

На тэрыторыі раёна шмат прыгожых месцаў і ўсе яны патрабуюць беражлівых да сябе адносінаў, незалежна ад іх катэгорыі, з'яўляецца гэта месца асоба ахоўваемай прыроднай тэрыторыяй ці не. Толькі агульнымі высілкамі і асцярожным стаўленнем мы зможам захаваць нашу першародную прыроду для нашчадкаў.

## Для захавання біяразнастайнасці прыкладна пятая частка тэрыторыі Беларусі павінна быць аднесена да прыродаахоўных зямель, мяркуе эксперт

**Для захавання біяразнастайнасці прыкладна пятая частка тэрыторыі Беларусі павінна быць аднесена да прыродаахоўных зямель. Пра гэта заявіла галоўны навуковы супрацоўніклабараторыі флоры і сістэматызацыі Інстытута эксперыментальнай батанікі Нацыянальнай акадэміі навук Соф'я Дзмітрыева 8 лютага на пасяджэнні круглага стала ў Мінску.**

Паводле яе слоў, на карысць гэтага сведчыць міжнародная практыка: дастатковы ўзровень захавання генафонду раслін забяспечаны толькі ў тым выпадку, калі да прыродаахоўных зямель аднесена прыкладна пятая частка тэрыторыі таго ці іншага рэгіёну.

«Выкананне гэтага патрабавання цяжка выканальнае ў густанаселеных рэгіёнах, якія вызначаюцца высокай інтэнсіўнасцю біярэсурсаспажывання», — сказала эксперт.

Як зазначыла Дзмітрыева, у Беларусі сёння да асабліва ахоўваемых тэрыторый аднесена толькі 7,6% плошчы краіны. У большасці краін Заходняй Еўропы гэты паказчык складае каля 10%, у свеце — толькі каля 3%.

Разам з тым, паводле слоў эксперта, асноўнай стратэгіяй падтрымання біяфонду павінна быць захаванне яго ў прыродзе. «У гэтым выпадку існуе магчымасць для абмену генамі паміж папуляцыямі, існуе магчымасць эвалюцыйнай адаптацыі відаў да зменлівых умоў», — сказала яна.

***Анастасія Янушэўская,*** *БелаПАН.*



**Галубоў сад. На беразе возера Доўгае звяртае на сябе ўвагу вялізнае двухствольнае дрэва. Гэта – вяз шурпаты, які ўзвышаецца над усімі навакольнымі дрэвамі. Унікальны не толькі для дадзенай тэрыторыі, але і ў цэлым для Віцебскай вобласці і нават для краіны. Дыяметр кожнага са ствалоў яго больш за 1 метр.** *Фота Ул. Скрабатуна.*

## Беларусь «з агаворкай» далучылася да Канвенцыі аб ахове дзікай фаўны і флоры і прыродных асяроддзяў пражывання ў Еўропе

**Аляксандр Лукашэнка 7 лютага падпісаў указ № 70 «Аб далучэнні Рэспублікі Беларусь да Канвенцыі аб ахове дзікай фаўны і флоры і прыродных асяроддзяў пражывання ў Еўропе».**

Паводле звестак прэс-службы прэзідэнта, канвенцыяй замацаваны абавязацельствы дзяржаў, якія падпісалі дакумент, прыняць неабходныя меры па ахове відаў дзікай фаўны і флоры і прыродных асяроддзяў пражывання; пералікі відаў раслін і жывёл, якім неабходна ахова, а таксама пэўныя меры аховы для гэтых відаў. Дакумент прадугледжвае магчымасць любой дзяржавы ўстанавіць асобныя выключэнні, у прыватнасці, удакладніць тэрыторыю, да якой прымяняецца канвенцыя, а таксама зрабіць агаворкі ў дачыненні да відаў жывёл і раслін, прылад ці спосабаў вымання аб'ектаў жывёльнага і расліннага свету.

«Мэты і задачы канвенцыі ў поўнай меры адпавядаюць прыярытэтам Рэспублікі Беларусь у галіне біялагічнай і ландшафтнай разнастайнасці. Разам з тым Рэспубліка Беларусь далучаецца да канвенцыі з агаворкай, якая ўлічвае патрабаванні нацыянальнага заканадаўства па ахове асобных відаў жывёл. Указанай агаворкай, у прыватнасці, устанаўліваюцца: нераспаўсюджанне некаторых мер па ахове на такія віды дзікіх жывёл, як воўк і выдра; асобныя выключэнні ў дачыненні да забароненых канвенцыяй спосабаў і прылад здабычы некаторых відаў дзікіх жывёл», — адзначаецца ў паведамленні.

***БелаПАН.***

# Кожнае трэцяе забойства – на ніве сямейна-бытавых адносін

**А.І. Гігола,**
*начальнік аддзела аховы правапарадку і прафілактыкі Глыбоцкага РАУС.*

Як паказвае практыка, злачынствы, якія здзяйсняюцца падчас узнікшых сямейных сварак і канфліктаў, нярэдка па жорсткасці і цяжары наступстваў іх здзяйснення шмат у чым пераўзыходзяць загадзя планаваныя, добра падрыхтаваныя злачынныя дзеянні. У сферы сямейна-бытавых адносін у рэспубліцы здзяйсняецца кожнае трэцяе забойства і кожнае чацвёртае наўмыснае прычыненне цяжкага цялеснага пашкоджання. Большасць забойстваў і іншых цяжкіх злачынстваў здзяйсняецца з-з канфліктаў паміж блізкімі людзьмі. Часцяком, працяглы час гэтаму папярэднічаюць сямейныя скандалы і злоўжыванне спіртнымі напоямі. Да фатальнай развязкі пацярпелыя, па розных прычынах (страх, боязь агалоскі, сорам перад суседзямі), не паведамілі пра сваю бяду ў праваахоўныя органы.

Праведзены МУС Рэспублікі Беларусь аналіз сведчыць, што ў дынаміцы аператыўнага становішча выразна прасочваюцца негатыўныя тэндэнцыі, звязаныя са здзяйсненнем асоба цяжкіх і цяжкіх злачынстваў супраць жыцця і здароўя, у тым ліку ў сферы сямейна-бытавых адносін.

Нягледзячы на прымаемыя меры, штомесячны рост колькасці зарэгістраваных забойстваў і наўмысных прычыненняў цяжкіх цялесных пашкоджанняў адзначаецца з верасня 2012 года.

Па выніках 2012 года колькасць забойстваў, здзейсненых у сферы сямейна-бытавых адносінаў, узрасло на 4,8%. Пры агульным зніжэнні колькасці забойстваў і наўмысных прычыненняў цяжкіх цялесных пашкоджанняў, здзейсненых асобамі, якія маюць не знятую ці непагашаную асуджанасць, кожнае трэцяе здзейснена дадзенай катэгорыяй грамадзян.

У першай дэкадзе 2013 года зарэгістравана 8 забойстваў, палова з якіх здзейсненая асобамі ў адносінах да сваіх блізкіх, па-ранейшаму адзначаецца рост (+ 6,3 %) наўмысных прычыненняў цяжкіх цялесных пашкоджанняў. Асноўнымі прычынамі здзяйснення крымінальна каральных дзеянняў з'явіліся п'янства і працоўная незанятасць.

У мэтах прыняцця эфектыўных мер па недапушчэнні асоба цяжкіх і цяжкіх злачынстваў супраць жыцця і здароўя, актывізацыі дзейнасці па прыняцці комплексных мер прэвентыўнай скіраванасці ў адносінах непрацуючых асобаў, якія вядуць асацыяльны лад жыцця, якія знаходзяцца на прафілактычным уліку, **у перыяд са студзеня па сакавік 2013 года супрацоўнікамі органаў унутраных спраў праводзіцца комплекс прафілактычных мерапрыемстваў.**

Калі Вам вядома пра падобныя выпадкі ў сям'і вашых суседзяў або знаёмых, таксама на ўмовах поўнай ананімнасці Вы можаце паведаміць пра факты продажу самагонкі, спіртазмяшчальнай вадкасці – паведаміце ў міліцыю па нумары «102», свайму ўчастковаму або па тэлефонных нумарах АДС Глыбоцкага РАУС: 597-21-74 (МТС) 314-89-02 (Велком).

Магчыма, гэтым Вы захаваеце нечае здароўе ці жыццё.

